ДЕКЛАРАЦИЯ ДОХОДОВ

# Откуда у вас денежки?

**Вступивший в силу 20 марта президентский декрет № 2 «О декларировании доходов и имущества физических лиц в РБ» создал немало проблем для граждан. Некоторые получили повестки из налоговой инспекции с требованием задекларировать доходы за предыдущий год, другие вынуждены доказывать «законность» своих денег, делая крупные покупки.**

Как известно, декретом было введено обязательное декларирование сделок с имуществом на сумму свыше 500 минимальных зарплат. Теперь, если вы решили приобрести, к примеру, машину или квартиру, то должны отчитаться перед государством за каждый рубль. Для этого необходимо посетить налоговую инспекцию и заполнить «Декларацию об источниках денежных средств, расходуемых на совершение имущественной сделки на сумму, превышающую 500 минимальных заработных плат», приложить к ней справки об источниках получения дохода (например, с места работы выдается справка о заработной плате) или договора займа либо дарения. При этом договора должны быть нотариально заверены. К тому же налоговая инспекция потребует в этом случае задекларировать данную сумму и от того человека, кто ее дал в долг или подарил.

Налоговый орган должен в течение 10 дней на основании представленных документов выдать справку на подтвержденную сумму. Если же инспекторам ваши деньги покажутся сомнительными, то будут назначены дополнительные проверки и разбирательства. В результате к вам могут быть применены штрафные санкции. Поэтому в декларации следует указывать только те доходы, которые вы действительно сможете оправдать.

Доказать законное происхождение ваших денег довольно сложно. В частности, как сообщили в налоговой инспекции, невозможно объяснить появление у вас денег тем, что вы их зарабатывали в течение нескольких лет и откладывали. Государство считает, что никаких накоплений у населения быть не может по причине весьма высокой инфляции, обесценившей все сбережения. Конечно, вполне возможно, что гражданин хранил свои сбережения в валюте. Однако в этом случае налоговая инспекция потребует квитанции из обменных пунктов на купленные суммы валюты. Если этих квитанций нет, то посчитают, что валюта либо была приобретена незаконно и поэтому не может быть декларирована, либо вообще не была приобретена. А то, что вы могли просто выбрасывать квитанции, когда еще никто и слыхом не слыхивал о декларировании, никого не будет волновать.

Некоторые граждане получают официальные требования задекларировать доходы за прошедший год, а также имущество. Им необходимо заполнить уже другой вариант декларации — «Декларацию о доходах и имуществе». Среди таких «счастливчиков» в основном те, кто получил денежные средства из-за границы, либо те, кто имеет несколько источников доходов. Узнает о таких фактах налоговая инспекция весьма нехитрыми путями. Некоторые данные поступают из банков, предприятий и т.д. Однако огромное количество сведений, как признался один налоговый инспектор, поступает от граждан, занимающихся обыкновенным стукачеством.

Наиболее сложным и непонятным процессом остается декларирование имущества по требованию налоговых органов. В декларации необходимо указать стоимость имущества, однако как его правильно оценить — неизвестно. В результате государственные чиновники, которые будут проверять декларацию, получат возможность для шантажа владельца, а стоимость дома или машины, исчисленная инспекторами, может значительно отличаться от ваших собственных расчетов. Впрочем, собственник декларируемого имущества при несогласии с итогами оценки может обратиться к услугам независимых экспертов и в суд. Несложно предсказать, что если процесс декларирования развернется более широко, то суды будут завалены исками.

Понимая все это, чиновники налоговой инспекции не выражают никакого восторга по поводу новой свалившейся на них работы. И вполне естественно, что такой несовершенный механизм декларирования будет стимулировать различные варианты сокрытия доходов или уклонения от официального оформления имущественных сделок.

**Ян ГАЛЕВИЧ**



# Глабальнае пацяпленне і жыццё на Зямлі

Навукоўцы выказваюць версію, што дыназаўры вымерлі пасля таго, як у Зямлю ўрэзаўся гіганцкі астэроід. Ён падняў у паветра велізарную колькасць пылу, які засланіў Сонца, і тры гады на нашай планеце панавала суцэльная ноч, у выніку чаго адбылося моцнае глабальнае пахаладанне. Цяпер вучоныя перасцерагаюць, што гаспадарчая дзейнасць чалавека можа прывесці да падобных катастрафічных вынікаў, толькі слупок тэрмометра палезе ўверх. Не выключана, што ў наступным стагоддзі клімат на Зямлі зменіцца больш, чым за ўсю гісторыю цывілізацыі.

## Газавая коўдра

Клімат на Зямлі абумоўліваецца некалькімі фактарамі. У глыбіні зямнога шара працякаюць складаныя фізіка-хімічныя працэсы з выдзяленнем цяпла. Прычым гэтыя працэсы характарызуюцца пэўнай перыядычнасцю, і нашая планета «падаграецца» знутры то мацней, то слабей. Акрамя таго, шмат энергіі паступае да нас ад Сонца: цёмная зямная паверхня ўбірае, акумулюе цяпло, якое нясуць сонечныя промні. Але вельмі важную ролю адыгрывае атмасфера. Так званыя парніковыя газы — вуглякіслы газ, метан, вокіс азоту, вадзяная пара і інш. — трымаюць тэмпературу на паверхні Зямлі ў сярэднім на ўзроўні 15 °С. Без такой газавай коўдры натуральная тэмпература была б прыкладна на 30 градусаў ніжэйшая, чым цяпер, і нашая планета выглядала б халоднай, голай пустыняй — як Марс.

Праблема ў тым, што ў выніку чалавечай дзейнасці газавая коўдра робіцца таўсцейшай. Людзі спальваюць нафту, вугаль, прыродны газ — і з комінаў ды выхлапных трубаў выкідваюцца велізарныя аб'ёмы вуглякіслага газу, значна больш, чым могуць перапрацаваць расліны на сушы і водарасці ў акіянах. Высякаюцца лясы, лісце прэе, гніе — і ў паветра паступаюць прадукты распаду. Мы звычайна не задумваемся, якую шкоду прыносіць атмасферы жывёлагадоўля: малочныя фермы і асабліва свінакомплексы не толькі моцна смярдзяць, але і з'яўляюцца сапраўднай фабрыкай па выпрацоўцы метану, вокісу азоту і іншых парніковых газаў.

Да таго часу, пакуль не адбыўся дэмаграфічны выбух і не пачалося шырокамаштабнае выкарыстанне выкапнёвага паліва, у прыродзе захоўваўся адносны баланс парніковых газаў. Аднак прамысловая рэвалюцыя XIX стагоддзя ў Англіі паклала пачатак эры хуткай індустрыялізацыі, што прывяло да парушэння экалагічнай раўнавагі. Шведскі хімік Свантэ Арэніус яшчэ ў 1896 г. выказаў гіпотэзу, што павелічэнне выкідаў вуглякіслага газу ў выніку прамысловага спальвання каменнага вугалю прывядзе да павышэння тэмпературы на Зямлі. Першыя матэматычна абгрунтаваныя прагнозы з'явіліся ў сярэдзіне 60-х гадоў нашага стагоддзя: навукоўцы Прынстанскага універсітэта падлічылі, што калі ўтрыманне вокісу вугляроду ў атмасферы падвоіцца, то тэмпература на планеце вырасце на 2 градусы.



*Першымі пачалі нарошчваць газавую кодру брытанскія паравозы.*

## Сусветны патоп і нашэсце камароў

Сучасныя камп'ютэрныя тэхналогіі дазваляюць лічыць і прагназаваць больш дакладна. У 1988 г. на паседжанні Генеральнай асамблеі ААН было прынятае рашэнне аб стварэнні міждзяржаўнай камісіі па праблемах зменаў у клімаце, якая аб'яднала 2.500 вучоных ва ўсім свеце. Летам мінулага года камісія апублікавала даклад, у якім папярэджвае пра небяспеку парніковага эфекту. Па разліках экспертаў, калі выкіды вуглякіслага газу на Зямлі будуць і далей расці сённяшнімі тэмпамі, то ягонае ўтрыманне ў атмасферы на працягу XXI стагоддзя павялічыцца ўдвая, а гэта можа выклікаць глабальнае пацяпленне клімату да 2200 года ажно на 3,5 °С. Такога рэзкага павышэння тэмпературы не было на Зямлі за апошнія дзесяць тысяч гадоў.

Сёння ўжо практычна ніхто не стане аспрэчваць тое, што глабальнае пацяпленне пачалося. Аднак некаторыя даследчыкі выступаюць супраць тэзісу, што гэтае пацяпленне выкліканае дзейнасцю чалавека. Яны кажуць, што галоўная памылка заключаецца ў няправільным камп'ютэрным мадэляванні зямнога клімату. Сапраўды, паводле першых камп'ютэрных разлікаў, сёння клімат павінен быць цяплейшы, чым ён ёсць на самой справе. І дзякаваць Богу, што гэта не так. Але тым не менш 1995 г. на Зямлі быў самы цёплы за ўсю гісторыю назіранняў. І хоць сучасныя прагнозы наконт разагравання атмасферы за кошт парніковага эфекту гучаць не настолькі катэгарычна, як некалькі гадоў таму, але факт ёсць факт.

Кліматычная камісія ААН называе некалькі магчымых наступстваў глабальнага пацяплення. Самае трывожнае — раставанне арктычных ды антарктычных ільдоў і павышэнне ўзроўню Сусветнага акіяну на 15–90 см да 2100 года. Гэта затопіць і зробіць непрыдатнымі для жыцця густанаселеныя раёны ў дэльтах вялікіх рэчак, а якраз там выраслі многія вялікія гарады. Акрамя таго, можа істотна змяніцца характар надвор'я, павялічыцца колькасць і частата паводак і засух, што прывядзе да сур'ёзнай шкоды ў сельскагаспадарчых раёнах. Ужо сёння кліматолагі звязваюць непасрэдна з пацяпленнем такія праявы стыхіі, як незвычайна інтэнсіўныя снегапады і паводкі на Амерыканскім кантыненце, у выніку якіх за апошнія некалькі гадоў загінулі сотні чалавек. Другая пагроза чалавечаму жыццю заключаецца ў распаўсюджванні эпідэмій. У прыватнасці, у сувязі з пацяпленнем пашыраюцца тэрыторыі, дзе водзяцца камары, а таму новых ахвяраў знаходзяць такія хваробы, як малярыя і ліхаманка дэнге.

## Менш спальваць ці разводзіць водарасці?

Змрочныя прагнозы наконт глабальнага пацяплення падштурхнулі больш як 160 краінаў свету падпісаць у 1992 г. канвенцыю па кліматычных зменах. У адпаведнасці з дакументам, дзяржавы абавязаліся да 2000 года скараціць выкіды ў атмасферу парніковых газаў да ўзроўню 1990 г. Злучаныя Штаты Амерыкі і некаторыя іншыя краіны цяпер распрацоўваюць новую, больш жорсткую дамову, якую мяркуецца падпісаць у кастрычніку гэтага года ў горадзе Кіёта (Японія).

Скарачэнне выкідаў парніковых газаў можа быць дасягнутае ў першую чаргу за кошт змяншэння аб'ёмаў арганічнага паліва, якое выкарыстоўваецца ў прамысловасці. Натуральна, што гэта можа паўплываць на эканоміку, таму прамысловае лобі ў развітых краінах выступае супраць увядзення абмежаванняў. У прыватнасці, некаторыя эканамісты сцвярджаюць, што скарачэнне выкідаў парніковых газаў на 20% да 2010 г. будзе каштаваць толькі ў ЗША каля 100 мільярдаў долараў у год! Аўтары іншых даследаванняў называюць яшчэ большыя сумы.

Аднак і сярод прамыслаўцаў ёсць аптымісты. Яны лічаць, што больш жорсткая экалагічная палітыка не толькі дазволіць зберагчы навакольнае асяроддзе, але і будзе стымуляваць распрацоўку новых тэхналогій, што дасць падставы для далейшага эканамічнага росту. *«Па нашых разліках, пры мінімальным кантролі з боку дзяржавы можна скараціць выкіды вуглякіслага газу на 12% і пры гэтым стварыць сотні новых працоўных месцаў»,* — сцвярджае М.Марвін, дырэктар Бізнес рады ўстойлівай энергетыкі — арганізацыі, якая аб'ядноўвае электраэнергетычныя сістэмы, кампаніі па здабычы газу і прадпрыемствы па вытворчасці адпаведнага абсталявання.

Некаторыя навукоўцы прапануюць дастаткова танныя спосабы скарачэння долі вуглякіслага газу ў атмасферы. Напрыклад, ёсць ідэя ўнясення соляў жалеза ў акіяны ў пэўных рэгіёнах. На думку аўтараў, гэта прывядзе да масавага размнажэння фітапланктону — мікраскапічных акіянскіх водарасцяў, якія сёння паглынаюць і перапрацоўваюць каля 30% атмасфернай вуглекіслаты. Аднак у такіх праектаў нямала праціўнікаў: чалавецтва ўжо не раз мела прыкры досвед таго, як рызыкоўныя маніпуляцыі з біясістэмамі прыводзілі да вельмі негатыўных вынікаў.

І ўсё ж зусім невырашальных праблемаў няма. Прыклад — супольныя намаганні па ахове азонавага слою атмасферы. У 1987 г. быў падпісаны Манрэальскі пратакол — першая міжнародная дамова па пытаннях клімату. З таго часу паступова, але няўхільна адбываецца скарачэнне выкідаў у атмасферу фрэонаў, хлорафторвугляродных злучэнняў і іншых хімічных рэчываў, якія разбураюць ахоўны азонавы пояс Зямлі. Гэтыя меры ўжо дазваляюць гаварыць, што праз 20–30 гадоў азонавы слой атмасферы можа аднавіцца, вярнуцца да свайго нармальнага стану — і людзям ужо больш не будзе пагражаць празмерная ультрафіялетавая радыяцыя. Так павінна быць і з парніковым эфектам: чалавек яго выклікаў — чалавецтва яго пераможа.

**Джым ФУЛЕР**
*USIA*

© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 36.710
Нумар падпісаны ў друк 15.04.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 293